# Прадмова да беларускага выдання

Расійскую вёску Ка́тынь і беларускую Хаты́нь раздзяляе каля 300 кіламетраў. Нягледзячы на досыць вялікую адлегласць, два гэтыя населеныя пункты цесна звязаныя паміжсобку гісторыяй: на месцы, дзе стаяла спаленая нямецкімі акупантамі Хатынь, у савецкія часы было створана месца памяці, сёння гэта аднайменны Дзяржаўны мемарыяльны комплекс. Гэтая беларусая мясцовасць была абраная не выпадкова, бо назвы абедзвюх вёсак вельмі падобныя, асабліва ў англійскай транслітарацыі: “Khatyn” і “Katyn”. Хатынь мусіла засланіць Катынь у вачах міжнароднай супольнасці.

Хатынь — месца нямецкага злачынства, а вось Катынь — месца злачынства савецкага. Забойства чэкістамі польскіх афіцэраў і спробы замоўчаць яго на працягу паўстагоддзя тычыцца таксама і беларускай гісторыі, паступовая рэканструкцыя якой стала мажлівай толькі пасля распаду Савецкага Саюза.

Наўрад ці ёсць іншы рэгіён, які пацярпеў ад Другой сусветнай вайны больш, чым тэрыторыя сённяшняй Рэспублікі Беларусь. Заходняя яе частка, што да вайны ўваходзіла ў склад Польшчы і зазнала моцныя рэпрэсіі з боку варшаўскай адміністрацыі, у верасні 1939 г. была занятая Чырвонаю арміяй. Палякі лічылі гэта агрэсіяй і парушэннем міжнароднага права, але шмат хто з мясцовых беларусаў вітаў чырвонаармейцаў як вызваліцеляў. Мы не можам сказаць, ці іх была бальшыня, але гэтак гісторыю яшчэ і сёння, калі пасля распаду Савецкага Саюза ўжо вырасла цэлае пакаленне, інтэрпрэтуюць у Маскве. Пэўна можна казаць толькі, што пасля далучэння да СССР рэгіён захлынула небывалая хваля тэрору, арганізаванага чэкістамі. Тут пачынаецца след, што вядзе да Катыні, бо там была расстраляная частка польскіх афіцэраў, якія трапілі ў савецкі палон. Натуральна, немцы, гаворачы пра тэрор НКУС, не маюць права забывацца, што потым на гэтай жа тэрыторыі Германія разгарнула вайну на вынішчэнне. Маючы на мэце перадусім габрэяў, яна таксама закранула і славянскае насельніцтва.

Савецкая частка Беларусі зведала тэрор камуністычнага рэжыму яшчэ ў даваенны час. Пра гэта сведчыць урочышча Курапаты, што стала месцам расстрэлаў задоўга да вялікіх чыстак, гэтаксама як і Катынскі лес, дзе ахвяр рэжыму з ліку мясцовага насельніцтва пахавана больш, чым палякаў. Вядома ж, Катынь і Курапаты розняцца маштабам. Але іх лучыць тое, што ў абодвух выпадках савецкі рэжым хацеў зваліць віну на немцаў. Вось жа, гэтыя месцы сталі таксама сімвалам вялікай хлусні.

На фоне павуціння хлусні, сплеценага вакол Катыні, немцы, якія ўчынілі столькі злачынстваў у гэтай частцы Еўропы, апынуліся ў

пазіцыі ахвяр — ахвяр шырокамаштабнага паклёпу, бо на іх усклалі віну за тое, чаго яны не рабілі. Аднак жа без нападу Германіі на Польшчу, без нацысцкай ідэі “жыццёвай прасторы”, якую трэба заваяваць, падпарадкаваўшы “недачалавекаў” — яе славянскіх насельнікаў — масавае забойства ў Катыні наагул бы не здарылася.

Для Беларусі тут важна яшчэ і тое, што толькі частка ваеннапалонных польскіх афіцэраў была расстраляная на тэрыторыі цяперашняй Расіі. Значная іх колькасць загінула пад кулямі падраздзяленняў НКУС у Савецкай Украіне, іншыя — у Беларускай ССР. Беларускі “катынскі спіс”, як яго называюць у Польшчы, змяшчае 3870 прозвішчаў. Праўда, дагэтуль арыгінал гэтага спіса не знойдзены, і толькі іншыя дакументы дазваляюць зрабіць выснову, што ён напраўду існаваў. Невядомае і месца іхнага пахавання; гісторыкі дапускаюць, што ахвяры ляжаць у тых жа Курапатах, і гэтак след Катыні зноў вядзе ў Беларусь, замыкаючы кола.

Знайсці адказы на гэтыя апошнія пытанні, развязаць гэтыя загадкі — задача цяперашняга пакалення. Для кожнага грамадства спрадвечнаю патрэбаю ёсць высвятленне ды асэнсаванне сваёй гісторыі, прычым акурат яе змрочных старонак, віны ў злачынствах, асабліва калі гэтая віна доўга адмаўлялася, калі хлусня нават рабілася дзяржаўнаю дактрынаю, як адбылося ў выпадках Катыні ды Курапатаў. І шмат каму пры гэтым важная перадусім такая катэгорыя маралі, як праўда.

Гісторыку працаваць з гэтым паняццем складана, бо кожны назіральнік мае ўласную праўду, на адны і тыя ж падзеі можна глядзець з розных пазіцый. Гэта проста факт, што пункт гледжання расіян і палякаў на досвед сумеснай гісторыі будзе розным, гэтаксама як беларусаў і палякаў, палякаў і немцаў, беларусаў і расіян. Аднак, бадай, не павінна быць розніцы ў ацэнцы такіх трагедый, як Катынь і Курапаты.

Гісторык мусіць абмежавацца зборам інфармацыі, яе пацвярджэннем на падставе крыніц ды праверкаю крыніц на змястоўнасць і дакладнасць. Для тутэйшых гісторыкаў гэта нялёгкая задача ва ўмовах, калі у афіцыйнай гістарыяграфіі пэўныя старонкі ўласнай мінуўшчыны выцясняюцца на перыферыю ці нават табуізуюцца, а падвалінамі служаць міфы ды гісторыі герояў.

У Польшчы, Германіі ды іншых заходніх краінах катынскае злачынства з яго перадгісторыяй лічацца добра вывучанымі, няхай сабе асобныя аспекты і патрабуюць яшчэ высвятлення. Таму перадусім палякі з непакоем назіраюць за рэвізіянізмам у дачыненні Катыні, што пашыраецца ў Расіі: у апошнія гады з’явіўся шэраг кніг, шматлікія артыкулы і нават навуковыя публікацыі ў абарону версіі сталінскіх часоў, у якіх дакументы з архіваў НКУС ды Палітбюро са сведчаннямі савецкай віны абвяшчаюць падробленымі. На інтэрнэт-форумах аргументы гэтых кніг абмяркоўваюць з усёй сур’ёзнасцю, моцны водгук яны выклікаюць якраз у маладых людзей.

Аўтары згаданых публікацый называюць і намер, з якім нібыта рабіліся фальшыўкі: хтосьці хацеў дыскрэдытаваць Савецкі Саюз у вачах свету, а палякі намерыліся шантажаваць Маскву, патрабуючы мільёнаў кампенсацыі за ахвяр. Адно толькі прыхільнікі версіі, што абяляе Савецкі Саюз, не выявілі ніводнага дакумента, які б наўпрост пацвярджаў яе, і не знайшлі ніводнага адпаведнага сведкі. Невялікі гурток расійскіх гісторыкаў заняўся рупліваю дэтэктыўнаю працаю, каб зняпраўдзіць аргументы рэвізіяністаў, з часткай вынікаў можна пазнаёміцца на сайце *katynfiles.com*.

Віну Савецкага Саюза, між іншага, прызналі не толькі прэзідэнты Гарбачоў, Ельцын, Пуцін і Мядзведзеў, яе засведчылі па заканчэнні савецкай эпохі і чатыры былыя генералы КДБ (Райхман, Судаплатаў, Сапруненка, Токараў). Былі апытаныя нават чальцы падраздзяленняў, што праводзілі расстрэлы ў 1940 г., і ад іх нам сталі вядомыя дэталі. Каб зладзіць згаданую “падробку”, спатрэбілася б апрацаваць тысячы дакументаў і ўвесці іх у жорстка кантраляваныя архівы, а ў дадатак змусіць ілжыва сведчыць прадстаўнікоў найвышэйшага маскоўскага кіраўніцтва ды шэраг былых афіцэраў КДБ — гэтаму няма аніякіх доказаў, дый наагул зразумела, што падобнае па-за межамі мажлівага. Змагары за перагляд “катынскай справы” проста прасоўваюць тэорыі змовы, але ўсё ж іхная дзейнасць ужо спарадзіла нямала блытаніны ды адмоўных эмоцый.

Калі мы хочам жыць у добрых адносінах з суседзямі, нам варта ведаць іхны погляд на гісторыю і ўсведамляць, чаму суседзі бачаць шмат якія падзеі інакш. Нам варта намагчыся, каб зразумець, чаму пэўныя старонкі гісторыі робяць ім асабліва балюча. На сённяшніх пакаленнях ляжыць адказнасць не толькі за захаванне ведаў пра канфлікты і тым больш войны паміж суседзямі, але за пошук шляхоў, каб ні ў якім разе не дапусціць паўтарэння тых жахлівых сутыкненняў, што зведала гэтая частка Еўропы і канкрэтна Беларусь у XX стагоддзі. Для гэтага суседзям канечне патрэбны дыялог пра супольную гісторыю; гэтая кніга мусіць стаць пэўным унёскам у яго, яна роўным чынам пісалася для немцаў, палякаў, расіян і беларусаў.

Томас Урбан
Мадрыд, кастрычнік 2016 г.